



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

31 жніўня 2018 года №35 (1218)










# Чаму аўтобусы ў Маладзечне часам не прыязджаюць па раскладзе?

## Пасажыры незадаволеныя нестабільным рухам аўтобусаў

старонка 2

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

## Як Астравец адсвяткаваў 550-годдзе



старонка 17

## Ці дапамагае знайсці працу камісія па працаўладкаванні?




старонка 5


ISSN 1991–7155





Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



ТЭМА НУМАРА



Аўтобусы ў аўтапарку ў Маладзечне.

# Адміністрацыя аўтапарка расказала, чаму аўтобусы ў Маладзечне не прыязджаюць па раскладзе

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

**У нумары «РГ» ад 24 жніўня мы пісалі, што ў рэдакцыю звярнуўся адзін з нашых чытачоў. Ён паскардзіўся на тое, што аўтобусы №2, 4, 10 у Маладзечне не прыязджаюць на прыпынкі па раскладзе.**

Карэспандэнт «РГ» пагутарыла з адміністрацыяй аўтапарка пра гэтую праблему.

### У аўтапарку зношаны транспарт

У маладзечанскім аўтапарку працуе 110 аўтобусаў, на Мядзельскім вытворчым участку – 25.

– Прыходзіць новы аўтобус, на яго ставяць тэрмін амартызацыі – 8-10 гадоў. Калі аўтобусы выпрацавалі свой рэсурс, маем права іх спісаць. Цяпер у аўтапарка больш за 75% зношанага транспарту, – расказвае начальнік аўтамабільнай калоны №1 **Сяргей Радына**.

Ад 2007 да 2009 года абнавілі ўвесь транспарт. У 2016 на прыгарад выдзелілі восем аўтобусаў.

Дырэктар філіяла «Аўтобусны парк №4» **Раман Гаварко** расказаў, што 20 ліпеня ў Маладзечне з'явіліся тры новыя аўтобусы маркі «МАЗ-103». Грошы на пакупку выдзелілі з абласнога бюджэту. Адзін каштуе 288 тысяч рублёў.

– Каб абнаўлялі перыядычна, быў бы не такі моцны адначасовы знос транспарту. Аўтобусы часта рамантуем. Сыходзіць тэрмін эксплуатацыі, трацім больш грошай на запчасткі: рэдуктары, барабаны – асноўнае абсталяванне. Калі аўтобус новы, толькі замяняем аліву, тэхнічныя вадкасці. Ад таго, што на дарозе зламаецца аўтобус, ніхто не застрахаваны, гэта ж тэхніка, жалеза, – кажа Радына.

Па яго словах, усе аўтобусы ходзяць па раскладзе. Ёсць дапушчальная разбежка – тры хвіліны ў горадзе, пяць – у прыгарадзе. Калі транспарт не прыйшоў зусім, значыць, не выехаў з аўтапарка праз тэхнічную няспраўнасць, адсутнічае на маршруце.

– У змену ў майстэрнях працуе каля 30 чалавек. У суткі паступае і выязджае з майстэрні прыкладна 20 аўтобусаў, – кажа начальнік рамонтнай майстэрні **Міхаіл Ількевіч**. – З прыходам новага кіраўніка справа палепшылася.

### Чаго чакаць восенню і зімой

На пытанне, ці пагоршыцца сітуацыя з аўтобусамі падчас уборачнай і зімой, дырэктар аўтапарка адказвае:

– Робім усё магчымае, рыхтуем аўтобусы для таго, каб восенню і зімой запоўніць маршруты.

### «Цякучка» не залежыць ад пары года

Яшчэ адной праблемай аўтапарка з'яўляецца недахоп работнікаў. Па словах дырэктара, за тыдзень на аб'явы можа адгукнуцца адзін-два чалавекі, звольніцца – тры. Знаходзяць работу, якая задавальняе больш.

У жніўні ў штаце павінна быць 170-175 вадзіцеляў, а працуе каля 110. Кандуктараў у Маладзечне таксама не хапае.

– У пасажыраў са свайго боку таксама ёсць праўда. Аўтобус ёсць у раскладзе – чалавек разлічвае на транспарт, – тлумачыць Радына. – Але ёсць праблемы, якія перашкаджаюць. Віна, безумоўна, наша, але не нейкага канкрэтнага чалавека. Робім усё магчымае, каб палепшыць становішча на дарогах.

### Чаму не папярэджваюць пра змены ў раскладзе

Дыспетчар аўтапарка, якая выпускае аўтобусы на лінію, **Анжэла Сяліцкая**, расказала, што графік працы кіроўцаў складаецца за месяц. Нарады рыхтуюць штодзень, заходзячы з таго, колькі вадзіцеляў і аўтобусаў працуе.

– Аўтобусы не ходзяць, бо не хапае і кіроўцаў, і транспарту. Глядзім, дзе меншы пасажырапаток. Да прыкладу, калі на адным з маршрутаў аўтобуса ездзіць мала людзей, не пускаем на лінію яго. Цяпер у нас тры «двойкі» і тры «дзясяткі», але ходзіць па дзве.

На пытанне, чаму не папярэджваюць пасажыраў пра змены, дыспетчар адказвае: «Гэта ж не штодзень адбываецца, сёння так, заўтра па-іншаму. Можам адправіць усе аўтобусы, а паломка адбудзецца на лініі, атрымліваецца іншы графік».

### Маршрутка чакае пастаянных пасажыраў

На адну з нямногіх гарадскіх маршрутак №2 у Маладзечне білет каштуе 50 капеек – як і ў аўтобусе. Машына належыць індывідуальнаму прадпрымальніку. У дзень абслугоўвае каля 250 пасажыраў.

– Думаю, у нас ёсць пасажыры, таму што абслугоўванне якаснае, машына чыстая, дагледжаная, салон прыбраны. І кіроўца ўсміхаецца, – дзеліцца гаспадар **Вадзім Качэрга**. – Амаль два з паловай гады прайшло, як адкрыў ІП. Памятаю час, калі ў Маладзечне было шмат маршрутак. Тады гэты транспарт не быў рэнтабельным. Аўтапарк якраз добра тады абнавіў аўтобусы, вырваўся наперад. Кіроўцы самі пазвальняліся, віны аўтапарка ў гэтым няма, там адэкватныя, чалавечныя людзі.

Па словах прадпрымальніка, цяпер аўтапарк «упіраецца». Калі нехта жадае ўзяць маршрут, на камісіях у выканкаме прапаноўваюць самыя нерэнтабельныя. На добрых маршрутах значны даход.

Качэрга раней вадзіў маршрутку №2 сам. Пасля адчыніў сваю СТА, наняў кіроўцу.

– Днём у нас няма пастаянных пасажыраў. Калі машына зламалася, людзі пра гэта не ведаюць. Раніцай і вечарам любымі спосабамі папярэджваем, што маршрутка не прыедзе – тэлефануем, напрыклад. Бо на тым жа ЗПМ многія чакаюць менавіта маршрутку. Калі пастаянныя пасажыры крыху спазняюцца, чакаем.

Прадпрымальнік мяркуе, што для паляпшэння транспартнай сітуацыі ў горадзе варта садзейнічаць прыватным кіроўцам.

– Аўтапарк быў, ёсць і будзе, а прыватнікі могуць звольніцца ў любы момант – і вазіць няма каму. З'явіцца свабодны доступ да маршрутаў – будзе вялікая канкурэнцыя, кожны стане старацца. Вы пагляздіце на маршруты «Маладзечна-Мінск» – такія класныя аўто ходзяць. Абнаўляюць тэхніку, каб пасажыры ішлі да іх.

Мы пагутарылі з пасажыркай, што чакала маршрутку на прыпынку ля ЗПМ.

– Звычайна езджу на маршрутцы, таму што амаль у два разы хутчэй за аўтобус. Замест 40 хвілін дабіраюся да працы за 20-25. Ехаць трэба аж да хлебазавода. А на аўтобусе прыязджаю на працу ці вельмі рана, ці спазняюся, – расказала маладзечанка **Наталля Бялько**. – На маёй памяці маршрутка не прыйшла толькі адзін ці два разы. Знаёмая тады давозіла да працы. Астатнія пасажыры ішлі на прыпынак чакаць аўтобуса, чула, што спазняліся. Тая ж самая «двойка» – аўтобус – прыходзіць на канцавы прыпынак і доўга стаіць. Людзі чакаюць, пакуль кандуктар з кіроўцам пакураць. Хаця аўтобус павінен быў ужо пяць хвілін як ехаць.

### У Смаргоні няма праблем ні з аўтобусамі, ні з кіроўцамі

Для параўнання сітуацыі з транспартам мы звярнуліся ў філіял «Аўтамабільны парк №17 г. Смаргонь». На 29 жніўня ў парку знаходзіцца 59 аўтобусаў.

– Штат у нас укамплектаваны. Працуе працэнтаў дзесяць пенсіянераў. Не хапае спецыялістаў – талковых электрыкаў, матарыстаў. Работнікаў шукаем праз аб'явы ў аўтобусах, цэнтрах занятасці, прэсе. Прыцягваем моладзь пасля арміі, аплачваем навучанне ў аўташколе. Сярэдняя зарплата па прадпрыемству за ліпень – 808 рублёў, – расказаў дырэктар філіяла **Мікалай Самайловіч**. – Асноўную частку перасоўнага састава абнаўлялі ад 2009 да 2015 года, з ім праблем няма. Калі аўтобус не можа выйсці на лінію, ёсць рэзервовы транспарт. Такое здараецца раз-два на год. Калі аўтобус зусім не прыйшоў – гэта ўжо надзвычайны выпадак.

### Што можа зрабіць аўтапарк?

Для многіх маладзечанцаў жа застаецца вострай праблемай нават не тое, што некаторыя аўтобусы своечасова не прыязджаюць, а няведанне, ці варта яго чакаць. У прыёмнай аўтапарка адказалі, адзіны спосаб – набраць нумар дыспетчара аўтапарка. Ён скажа, ці ёсць аўтобус на лініі.

**Але што замінае адміністрацыі папярэджваць пасажыраў праз сацыяльныя сеткі ці ўласны сайт?**

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Як купіць кавун і дыню без шкоды здароўю

Не купляйце кавуны і дыні ў неўстаноўленых і неабсталяваных месцах гандлю, з зямлі, асабліва уздоўж аўтамабільных і чыгуначных магістраляў. Месцы для іх захоўвання павінны быць абсталяваныя паддонамі, кантэйнерамі, падтаварнікамі.

Пытайцеся ў прадаўцоў дакументы, якія пацвярджаюць якасць і бяспеку прадукцыі (утрыманне нітратаў, пестыцыдаў), паходжанне. У самога прадаўца павінна быць з сабой медыцынская даведка.

Набывайце кавуны і дыні толькі з цэласнай лупінай, без гнілі.

Небяспека, якая можа хавацца ў кавуне – мікробы. Спее плод на зямлі, затым яго перавозяць, захоўваюць – і ўсё далёка не ў стэрыльных умовах. Калі кавун трэснуў, сок становіцца выдатным асяроддзем для размнажэння шматлікіх мікраарганізмаў, што выклікаюць вострыя кішачныя інфекцыі.

Распаўсюджаны прыём прадаўцоў – для доказу спеласці выразаць з фрукта невялікую пірамідку, дэманстраваць пакупніку і ўстаўляць яе назад у кавун. Ці ўпэўненыя вы, што гэты нож рэгулярна мыюць? Нават калі ўнутры кавуна не было ў узбуджальнікаў захворванняў, то цяпер яны сапраўды з'явіліся. І ўжо зусім непрымальны спосаб продажу – долькамі.

Калі прынеслі кавун дадому, старанна вымыйце. Можна нават з мылам, спаласнуць гатаванай вадой. Падчас мыцця можна праверыць на спеласць. Спелы плод будзе плаваць у вадзе, а зялёны патоне.

Нарэжце чыстым нажом. Саспелы плод будзе з характэрным трэскам «разыходзіцца» пад нажом. Захоўваць разрэзаны кавун неабходна ў халадзільніку і нядоўга.

**Падрыхтавала доктар-эпідэміёлаг Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Ганна ГІЛЬ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.08 | 30.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2,0426 | **2,0735** |
| **Еўра** | 2,3649 | **2,4205** |
| **Злоты, 10** | 5,5272 | **5,6499** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3,0205 | **3,0468** |
| **Грыўня, 100** | 7,3343 | **7,3738** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **22.08** | **29.08** |
| **Еўра** | 2.3450/2.3650 | **2.4000/2.4300** |
| **Долар ЗША** | 2.0300/2.0470 | **2.0550/2.0800** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| **ПРАДУКТЫ** | **22.08** | **29.08** |
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 18,45 | **18,45** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,90 | **3,90** |
| **Сасіскі «Малочныя», 1 кг** | 6,98 | **6,98** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 8,50 | **8,50** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 4,30 | **4,30** |
| **Селядзец, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 13,80 | **13,80** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 1,10 | **1,10** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 1,60 | **1,60** |
| **Алей, 1 л** | 3,00 | **3,00** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,15 | **2,15** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,60 | **1,60** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 1,90 | **1,90** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 1,60 | **1,30** |
| **Агуркі, 1 кг** | 1,00 | **1,20** |
| **Баклажаны, 1 кг** | 1,60 | **1,39** |
| **Бульба, 1 кг** | 0,45 | **0,30** |
| **Буракі, 1 кг** | 0,80 | **0,50** |
| **Кабачок, 1 кг** | 0,80 | **0,50** |
| **Капуста, 1 кг** | 0,80 | **0,70** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 1,50 | **1,95** |
| **Морква, 1 кг** | 0,95 | **0,89** |
| **Памідоры, 1 кг** | 0,95 | **0,75** |
| **Перац, 1 кг** | 1,39 | **1,29** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 0,90 | **0,80** |
| **Часнок, 1 кг** | 4,70 | **4,80** |
| **Абрыкосы, 1 кг** | 3,00 | **–** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 2,70 | **2,99** |
| **Бананы, 1 кг** | 2,50 | **2,29** |
| **Вінаград, 1 кг** | 3,40 | **3,30** |
| **Грушы, 1 кг** | 2,00 | **0,90** |
| **Дыня, 1 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **Кавун, 1 кг** | 0,69 | **0,69** |
| **Ківі, 1 кг** | 3,50 | **4,70** |
| **Лімоны, 1 кг** | 4,90 | **5,69** |
| **Нектарыны, 1 кг** | 3,90 | **3,80** |
| **Персікі, 1 кг** | 2,95 | **2,60** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 0,35 | **0,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,80 | **1,80** |
| **Масла, 1 кг** | 14,00 | **14,00** |
| **Сала, 1 кг** | 12,00 | **12,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 6,00 | **6,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 2,50 | **2,50** |

# Об оформлении объектов госсобственности

**В соответствии с отчетом Всемирного банка Doing Busines в 2017 году по курируемому Государственным комитетом по имуществу Республики Беларусь показателю «Регистрация собственности» Республика Беларусь занимает 5 место из 190 стран (процедуры – 2; срок – 3 дня; стоимость – 0,0 % от стоимости объекта недвижимого имущества; индекс качества земельного администрирования – 23,5 балла).**

Данный показатель играет важную роль по привлечению в нашу страну инвестиций, модернизации экономики, а также диверсификации экспортной корзины страны. В план Комитета государственного контроля Республики Беларусь был включен пункт об обязательной регистрации государственной собственности.

Осуществление регистрации государственного имущества в полном объёме позволит укрепить позиции Республики Беларусь в рейтинге Doing Business Всемирного банка, который определяет степень благоприятности ведения бизнеса в стране.

Исследования Doing Business не только указывают на проблемы, которые препятствуют развитию предпринимательства, но и определяют их причины и содержат рекомендации о проведении необходимых реформ.

Согласно Плана мероприятий по реализации постановления коллегии Комитета государственного контроля Республики Беларусь от 1 декабря 2016 года №19, утвержденного Первым заместителем Премьер Министра Республики Беларусь Василием Матюшевским 19 января 2017 года № 11/307-1/16 в Минской области был сформирован Перечень незарегистрированных объектов недвижимого имущества, находящихся в собственности Минской области.

Для того, чтобы провести государственную регистрацию вовремя, республиканские органы госуправления и местные исполнительные и распорядительные органы сформировали перечни незарегистрированных объектов, находящихся в государственной собственности.

На их основе составили План-график работ по государственной регистрации объектов государственной формы собственности, рассчитанный до конца 2019 года.

Мы работаем над тем, чтобы до 2020 года завершить оформления правоудостоверяющих документов на объекты недвижимого имущества, которые находятся в государственной собственности и эксплуатировались до 8 мая 2003 года.

Чтобы эффективно и своевременно выполнить поручения правительства, Молодечнеский филиал и подведомственные бюро РУП «Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру» со своей стороны оказывают бесплатные консультации правообладателям незарегистрированных государственных объектов недвижимости.

При обращении в Молодечнеский филиал и подведомственные бюро РУП «Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру» Вам расскажут, как провести техническую инвентаризацию и государственную регистрацию объектов государственного имущества, в том числе, по вопросам перечней необходимых документов, стоимости и сроков выполнения работ.

Так же хочется обратить внимание руководителей организаций на балансе которых находится незарегистрированное имущество, что на период 2018 года законодательством предусмотрена льгота на проведение работ по технической инвентаризации и государственной регистрации на объекты недвижимого имущества, которые эксплуатировались до 8 мая 2003 года.

Для составления предварительного расчёта стоимости оформления правоудостоверяющих документов на эксплуатируемые капитальные строения, Вы можете обратиться к специалистам Молодечненского филиала с перечнем имущества подлежащего государственной регистрации с указанием их ориентировочной площади.

# Почему стоит удостоверять сделки у регистратора недвижимости

Сегодня любой гражданин, который хочет совершить сделку с объектом недвижимого имущества, может обратиться в агентство по государственной регистрации и земельному кадастру, минуя нотариальную контору.

При обращении за удостоверением договора дарения или купли-продажи объекта недвижимого имущества к регистратору недвижимости стороны сделки одновременно подают заявление об удостоверении договора и заявление о государственной регистрации договора и основанных на нем прав на объекты недвижимого имущества.

С момента вступления в силу Закона Республики Беларусь от 22.07.2002 № 133-З «О государственной регистрации недвижимого имущества, прав на него и сделок с ним» регистраторы недвижимости Молодечненского филиала приобрели большой опыт по удостоверению договоров.

С каждым годом количество удостоверенных договоров регистраторами недвижимости возрастает. Так в 2017 регистраторы недвижимости Молодечненского филиала удостоверили более 1400 сделок.

Обслуживание в Молодечненском филиале выбирают все больше граждан, ведь это очень удобно, так как все процедуры по удостоверению договора и последующей регистрации оформляются в одном кабинете.

Удостоверение сделки регистратором недвижимости очень удобно и имеет ряд преимуществ. Во-первых, стороны сделки значительно экономят своё время. Во-вторых, регистратор недвижимости имеет доступ к единому государственному регистру недвижимого имущества, прав на него и сделок с ним в режиме реального времени и владеет самой актуальной информацией в отношении отчуждаемого объекта недвижимости, в том числе о наличии запретов, арестов и иных ограничений (обременений) прав на недвижимое имущество.

В Молодечненском филиале и подведомственных бюро сделку всегда удостоверят быстро, качественно и в режиме реального времени. А в настоящее время любой регистратор недвижимости Молодечненского филиала и подведомственных бюро может удостоверить сделку с объектом недвижимости, в том числе расположенным на территории Минской области.

**Ольга КРЮЧКОВСКАЯ, начальник отдела регистрации недвижимого имущества Молодечненского филиала РУП «Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру».**

УНП 600199462

## Паламаў рэбры, абразіў: на Вілейшчыне браты крыўдзяць сясцёр

**ВІЛЕЙКА**

Адразу два званкі ў вілейскую міліцыю было раніцай 24 жніўня ад пакрыўджаных жанчын.

Патэлефанавала жыхарка Вілейкі і паведаміла, што ў кватэры на вуліцы Незалежнасці яе збіў брат.

Аказалася, што брат з сястрой разам выпівалі, потым пасварыліся, дайшло да бойкі. У выніку брат пераламаў сястры рэбры.

Другі званок быў з вёскі Вілейскага раёна. Жанчына жалілася на тое, што брат абражае яе, чым наносіць псіхічныя пакуты.

Па абодвух выпадках праводзіцца праверка, распавялі ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Стукнуў кулаком у твар, забраў мабільнік

**ВІЛЕЙКА**

23 жніўня ў Вілейскім РАСК узбудзілі крымінальную справу супраць 37-гадовага жыхара Любані.

Следчым стала вядома, што ён 22 жніўня каля 11 гадзін ля гандлёвых павільёнаў на Гагарына стукнуў у твар кулаком 59-гадовага жыхара Вілейкі.

Потым падазраваны адкрыта скраў у яго мабільнік. Фігуранта затрымалі, скрадзены мабільнік канфіскавалі.

## Маладзечанец адкрыта скраў з магазіна бутэльку гарэлкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося ў панядзелак, 27 жніўня, каля сямі вечара.

27-гадовы Я. зайшоў у адзін з магазінаў горада, узяў з паліцы бутэльку гарэлкі і адмовіўся плаціць за яе.

Гарэлка каштавала 6 рублёў 47 капеек. Падазраванага затрымалі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На Смаргоншчыне машыністу заціснула нагу ў канвеер

**СМАРГОНЬ**

У Міхнавічах 27 жніўня 45-гадоваму машыністу канвеерных ліній заціснула нагу паміж трансбордэрам – машынай для падачы фармовачнай масы ў печы – і бетоннай асновай.

Пра здарэнне паведамілі каля шасці раніцы работнік прадпрыемства па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. Ён расказаў, што пацярпеламу патрэбна дапамога ратавальнікаў.

Пры дапамозе гідраўлічнай аварыйна-выратавальнай прылады і бензарэза пацярпелага дасталі і перадалі работнікам «хуткай».

Мужчыну шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне раённай бальніцы.

## На Астравеччыне гарэла збожжасушылка

**АСТРАВЕЦ**

Гарэла загрузная шахта збожжасушыльнага комплексу ў Міхалішках. Знішчаныя дзве тоны, пашкоджаныя восем тон насення рапсу і корпус загрузнай шахты.

Пра пажар паведамілі ноччу 27 жніўня.

Узгаранне ўбачыў аператар збожжасушыльнага комплексу, які прыйшоў праверыць паказчыкі вільготнасці насення рапсу. Работнік адключыў абсталяванне і выклікаў выратавальнікаў.

Работнікі МНС сумесна з персаналам аб'екта выратавалі 20 тон насення рапсу.

Папярэдняй прычынай узгарання магло стаць тое, што ў нейкі момант насенне рапсу забіла прыладу, пад уздзеяннем цяпла стала тлець і загарэлся.

**Паводле сайта МНС.**

## У ДТЗ пацярпеў 11-гадовы хлопчык

**СМАРГОНЬ**

Дзіця атрымала сур'ёзныя траўмы ў першы дзень мерапрыемства «Увага – дзеці!».

Паводле папярэдняй інфармацыі 25 жніўня каля 15.45 жыхарка Мінскай вобласці на «Рэно Шафран» на трэцім кіламетры аўтадарогі Вішнева – Рацавічы Смаргонскага раёна з'ехала ў кювет, дзе ўрэзалася ў прыдарожнае дрэва.

11-гадовы хлопчык, які знаходзіўся на заднім сядзенні ў бустэры, быў прышпілены, аднак удар прыйшоўся ў яго бок. Школьнік траўмаваў галаву.

Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

На тэрыторыі вобласці захоўваецца тэндэнцыя, калі большасць аўтаавара́рый з удзелам дзяцей адбываецца па віне дарослых.

**Паводле ДАІ Гродна.**



Праз дзесяць дзён пасля знікнення пенсіянеркі суседзі затурбаваліся.

# Труп пенсіянеркі праляжаў дзесяць дзён у інтэрнацкім пакоі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**64-гадовую гаспадыню не бачылі ад 10 жніўня.**

Жанчыну знайшлі на падлозе ў пакоі, дзе яна жыла. Пра гэта карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» распавяла **Таццяна Беланог,** афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта.

Калі ўзламалі дзверы, гаспадыню пакоя знайшлі мёртвай.

– Памерлая вяла замкнёны лад жыцця, асабліва ні з кім не кантактавала. Была на пенсіі, жыла адна. Праз дзесяць дзён пасля яе знікнення суседзі звярнуліся ў міліцыю, – расказала Таццяна Беланог.

Ніякіх пашкоджанняў на целе жанчыны няма. Па папярэдніх звестках, смерць надышла ад хваробы.

Маладзечанскі РАСК праводзіць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Жыхар Радашкавічаў да смерці збіў 37-гадовага мінчаніна за сапсаваныя кавуны

**МАЛАДЗЕЧНА**

**23 жніўня мужчына да смерці збіў мінчука на адным са сталічных рынкаў, паведамляе ГУУС Мінгарвыканкама.**

У бальніцу хуткай дапамогі з тэрыторыі рынку на вуліцы Ціміразева з траўмамі даставілі 37-гадовага жыхара сталіцы. У выніку ён памёр.

Праваахоўнікі высветлілі, што мінчук на рынку звярнуўся да незнаёмага з просьбай узяць сапсаваныя кавуны, якія той прыбіраў. У час размовы паміж імі здарыўся канфлікт, мужчына пабіў мінчука.

Супрацоўнікі міліцыі высветлілі, што гэта быў раней судзімы беспрацоўны 39-гадовы жыхар Радашкавічаў.

Мужчыну затрымалі і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

**Паводле УУС Мінгарвыканкама.**

## Міліцыянер затрымаў кіроўцу, што пабіў чужую машыну і хаваўся

**ВАЛОЖЫН**

На імя начальніка Валожынскага РАУС прыйшла падзяка ад сям'і валажынцаў у адрас інспектара ДАІ капітана міліцыі **Дзяніса Барысевіча,** якія дапамог ім у бядзе.

Справа заключалася ў наступным: раніцай гаспадыня спяшалася на работу. Падышла да сваёй іншамаркі і замерла: задняя частка кузава аўтамабіля была, як гаворыцца, усмятку.

Жанчына патэлефанавала ў службу ДАІ. На выклік прыехаў Дзяніс Барысевіч. Ён задаваў стандартныя ў такой сітуацыі пытанні і разам з тым супакойваў, падтрымліваў пацярпелую спагаднымі словамі. Паўдня спатрэбілася міліцыянеру для высвятлення ўсіх абставін здарэння, устанаўлення вінаватага і яго затрымання.

Аказалася, што ноччу мужчына за рулём легкавіка манеўраваў і ўрэзаўся ў прыпаркаваную іншамарку.

Спадзеючыся, што сведак сутыкнення няма, вінаваты знік з месца здарэння.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Фермерскія каровы пазбавілі гаспадароў ураджаю

**ВІЛЕЙКА**

23 жніўня адразу чатыры гаспадыні з вёскі Доўгае Нарацкага сельсавета, што на Вілейшчыне, звярнуліся ў міліцыю.

Абураныя жанчыны паведамілі, што каровы з мясцовай фермерскай гаспадаркі знішчылі ўсю гароднiну на іх прыватных агародах.

Ужо на месцы міліцыянерам стала вядома, што пастухі не дагледзелі за каровамі, і тыя трапілі ў агароды да мясцовых жыхароў.

Цяпер міліцыя праводзіць праверку, распавяла «Рэгіянальнай газеце» намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

Камісія па працаўладкаванні можа накіраваць шукальніка ва ўпраўленне занятасці Вілейскага райвыканкама. А там дапамогуць пашукаць працу. Напрыклад, запросяць на кірмаш вакансій, як сёлета ў маі.

# Чым займаецца камісія па працаўладкаванні

ВІЛЕЙКА

**17 жніўня на сесіі Вілейскага раённага Савета дэпутатаў абмеркавалі дзейнасць камісіі па працаўладкаванні. Такая камісія ад 27 красавіка працуе ў райвыканкаме.**

### Хто будзе плаціць за цяпло і газ у поўным памеры, вызначаць у камісіі

Згодна з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 красавіка 2015 года №3 «Аб садзейнічанні занятасці насельніцтва», ад 1 студзеня 2019 года, людзі, якія могуць працаваць, але не працуюць, будуць цалкам аплочваць некаторыя камунальныя паслугі.

Спіс такіх грамадзян складуць сёлета да першага снежня. Ад першага студзеня наступнага года людзі ў спісе па поўных тарыфах будуць аплочваць гарачае водазабеспячэнне. Ад 1 кастрычніка 2019 года – забеспячэнне газам і цяплом.

Для выканання чацвёртага пункта Дэкрэта №3 у Вілейскім райвыканкаме сёлета стварылі камісію, якая каардынуе працу і спрыяе занятасці насельніцтва.

### Пракансультуюць, раскажуць пра вакансіі

Старшынёй гэтай камісіі з'яўляецца старшыня Савета дэпутатаў **Алена Чабатар.** У складзе камісіі працуюць абласныя і раённыя дэпутаты, спецыялісты розных накірункаў.

> Гэта прадстаўнікі упраўленняў райвыканкама па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, ахове здароўя, ЖКГ, архітэктуры і будаўніцтву, унутраных спраў, адукацыі, ідэалогіі. Далучаюцца сюды і прадстаўнікі розных грамадскіх аб'яднанняў.

Камісія збіраецца не радзей за два разы на месяц. Калі трэба, то і часцей. Пасяджэнні ладзяць кожны другі і кожны чацвёрты чацвер месяца ў 15.00 у малой зале райвыканкама.

Камісія аказвае кансультатыўную, метадычную і прававую дапамогу тым, хто шукае працу або хоча адкрыць сваю справу. Зацікаўленым грамадзянам паведамляюць пра вакансіі, якія ёсць у Вілейскім раёне.

> Таксама камісія складае спіс працаздольных грамадзян, якія не працуюць, а таму будуць аплачваць камунальныя паслугі ў поўным памеры.

### Як працуе камісія, чытайце на сайце выканкама

Спецыялісты разглядаюць заявы працаздольных грамадзян, не занятых у эканоміцы, або членаў іх сямей пра поўнае ці частковае вызваленне іх ад поўнай аплаты камунальных паслуг. Падаць такую заяву можна, калі сям'я часова апынулася ў нялёгкай жыццёвай сітуацыі. Камісія можа прыняць такое рашэнне або адмовіць у ім.

Таксама камісія па працаўладкаванні мае права накіраваць працаздольных людзей у аддзел занятасці, дзе спецыялісты дапамогуць ім знайсці працу.

Калі трэба, грамадзян, што вядуць амаральны лад жыцця, камісія накіроўвае ў лячэбна-працоўныя прафілакторыі. Таксама члены камісіі могуць запытваць звесткі, патрэбныя для сваёй дзейнасці, у дзяржаўных органаў і арганізацый.

> Інфармацыю аб працы камісіі размяшчаюць на сайце Вілейскага райвыканкама. Тут жа можна спампаваць Дэкрэт №1, Дэкрэт №3 і іншыя дакументы, у якіх ідзе гаворка пра занятасць грамадзян і дзейнасць камісіі па працаўладкаванні, а таксама паглядзець графік яе працы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Доктар-эпідэміёлаг: віляйчане ўжываюць свежую садавіну, але ядуць мала рыбы

ВІЛЕЙКА

**Спецыялісты Вілейскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі правялі анкетаванне жыхароў Вілейшчыны да Дня здаровага ладу жыцця. Анкету размяшчалі на сайце «Рэгіянальнай газеты».**

Доктар-эпідэміёлаг Цэнтра **Крысціна Горбач** падзялілася вынікамі апытання.

Паўдзельнічала 193 чалавекі: з іх – больш за 80% жанчын. Больш за 90% – жыхары горада. Былі і тыя, каму няма 18 гадоў, і старэйшыя за 60.

На пытанне «Ці снедаеце вы?» 65,3% адказалі «кожны ранак», 23,8% – «вельмі рэдка (амаль ніколі)», 10,9% – «2-3 разы на тыдзень».

На пытанне адказы размеркаваліся так: «часам» «Ці перакусваеце вы на працягу тыдня паміж асноўнымі прыёмамі ежы» – 56,5% , «2-3 разы на дзень» – 34,7% , «4 і больш разоў на дзень» – 6,2%. Не перакусваюць зусім 2,6%.

Большая частка з апытаных (амаль 74%) ужывае гарачае харчаванне адзін-два разы на дзень, 16,6% – тры-пяць разоў в дзень; 8,3% – зусім не ядуць гарачага і абмяжоўваюцца перакусамі.

Больш за палову рэспандэнтаў (54,9%) харчуюцца штодзённа ў адзін і той жа час.

Паводле апытання, асноўная колькасць ежы для большасці прыходзіцца на абед, крыху менш удзельнікаў выбралі адказ «вячэра».

Адзін з апытаных прызнаўся, што есь ноччу.

У 56,5% вячэраюць не пазней, чым за дзве гадзіны да сну, 31,1% – за 1-1,5 гадзіны, варыянт «менш, чым за адну гадзіну» абралі 12,4% рэспандэнтаў.

Большая палова штодзённа ўжывае свежыя садавіну і агародніну. А рыбу часцей, чым два разы на тыдзень, ядуць толькі 3,6% з усіх апытаных.

32,6% з апытаных п'юць каву і чай без цукру. 27% кладуць адну лыжку, 8,8% – тры і больш.

З усіх удзельнікаў 9,3% ацэньваюць сваё харчаванне як здаровае.

44,3% адзначаюць у сябе лішнюю вагу, 43,4%, – хваробы органаў стрававання, 24,5% – павышаны ціск, 7,5%, цукровы дыябет, 1,9% астэапароз.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Белстат: самыя нізкія даходы ў Мінскай вобласці – у Вілейцы і Мядзелі

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

**Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў Мінскай вобласці ў ліпені склала каля 983,70 руб. – Белстат падлічыў заробкі жыхароў Мінскай вобласці, паведамляе «Млын.by».**

Планку па даходах трымае Салігорскі раён. У сярэднім тут зарабляюць каля 1 тыс. 338 рублёў. «Штурхаюць» яе ўверх вытворцы хімпрадуктов, у якіх заробак практычна на тысячу больш сярэдняй па рэгіёне – 2 тыс. 122,7 руб.

Крыху адстае ад Салігорска горад Жодзіна – 1 тыс. 247,4 руб. Жыхары Прысталічча зарабляюць каля 1 тысячы 186,9 руб.

Менш за ўсё даходы ў жыхароў рэкрэацыйных рэгіёнаў: Мядзельскага – 747,6 руб.; Вілейскага – 748,1 руб. і Любанскага – 747,5 руб.

Трэба адзначыць, што рэкорды па прыбытковасці б'е сфера інфармацыйных тэхналогій, кампаніі дадзенай сферы могуць дазволіць выплачваць сваім працаўнікам у сярэднім – 3 тыс. 660,7 руб.

Сферы, якія атрымліваюць датацыі з бюджэтаў, застаюцца самымі нізкааплатнымі: настаўнікі – 595,3 руб.; бібліятэкары, архіварыусы і супрацоўнікі музеяў зарабляюць у сярэднім не больш за 542 руб.

**Паводле Белстат.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• УАЗ 452 Д, 1985 г.в., торг. Т. МТС (8-029) 2279256.*

• ФВ-Пасат В-6, 2010 г.в., 1,4 tsi бензін, універсал, чорны, 2 ключа, два камлекты гумы, невялікі прабег. У добрым стане. Т. МТС (8-033) 6714366.

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Валожыне, вул. Савецкая, 66 кв.м, 5 паверх, 2012 г.п, ацяпленне аўтаномнае. Т. (8-033) 3709333.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 7725105.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Чапаева, 62, 61,3 кв. м, 5 паверх, 70 000 руб. Т. (8-029) 5056728.*

• 4-пакаёвая двухузроўневая кватэра ў Вілейцы.Т. (8-029) 3342562.

• Дача ў в. Заскавічы. Нядорага. Т. (8-029) 8874551.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом у а.г. Ілья. Т. МТС (8-029) 8924764. Анатоль.*

• Дом у Асіповічах. Т. (8-01771) 28717.

### ЗДАМ

• Кватэру альбо пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

## ПАСЛУГІ

• Бусы 1,5 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Фура 20 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Экскаватар-пагрузчык (бур). Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыенту. Біялогія. Хімія. Індывідуальны падыход. Досвед працы. Высокі вынік. Тэлефанаваць увечары. Т. (8-029) 3275496.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Вонкавая рэклама: шыльдачкі на дом – 10 руб, куток пакупніка – 15 руб. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. Т. (8-029) 6631595.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• **УЦЯПЛЕННЕ**, аддзелка **ФАСАДА** дома, балконаў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

• Шротаструменная (дробеструйная) апрацоўка металу. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Станок дрэваапрацоўчы, электрапіла «Парма». Т. (8-029) 8754610.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцэраль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова малочная (два ацёлы). Ёсць сена і дапільны апарат. Т. (8-0440 7680257.

• Пчолы з вуллямі і без вулляў. Вілейскі раён, в. Сосенка. Т. (8-029) 3208690.

**Іншае**

• Бочка алюмініевая 900 літраў, 4 драўляных кола. Т. (8-029) 5959868.

• Кантэйнер вялікі вугльвы з месцам для рознічнага гандлю ў цэнтры Маладзечна па вул. Б. Хмяльніцкага, рынак райспажыўтаварыства, абшыты дошкай, ёсць святло, дзве ралеты, шырокі шраг. Першы шраг, 14 месца. Наяўны/безнаяўны. Т. (8-029) 6835852.

• **РЭЙКА МАНТАЖНАЯ** 20 х 40 мм. Магазін завода ЗЕНІТ рэалізуе рэйку мантажную даўжынёй 2 і 3 м з дрэва хвойных парод тэхнічнай сушкі для абіўкі дамоў сайдынгам, блок-хаусам і імітацыяй бруса. Кошт 1 м.п. – 90 капеек. Пад заказ магчымы выраб рэек любога сячэння і дастаўка на аб’ект пакупніка. ААТ «Зеніт-БелОМО», УНП 600102155. Т. (8-01771) 32937, (8-033) 9004009.*

• Сена, салома ў рулонах, хатняя свініна. Т. (8-044) 7855125.

# У пошуках дапамагаюць нават старонкі ў «Аднакласніках»

## Як шукаюць і знаходзяць зніклых людзей на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Аказваецца, фраза «Мы прымаем заяву праз тры дні пасля знікнення» гучыць толькі ў кіно пра міліцыянераў.**

А як шукаюць зніклых людзей у жыцці, нам распавёў старшы оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС, маёр міліцыі **Віталь Паслед.**

### Калі паход у грыбы заканчваецца трагічна

Летне-восеньскі перыяд – напружаны час для аддзялення крымінальнага вышуку. Адышлі ягады – пачаліся грыбы. У багатыя лясы Вілейшчыны любяць прыехаць жыхары суседніх раёнаў. Многія з прыезджых тут нарадзіліся, але даўно жывуць у іншых месцах. Ім здаецца, што добра ведаюць лес, але…



Лета і восень – напружаны сезон для супрацоўнікаў вышуку. Губляюцца ягаднікі і грыбнікі.

**– Увосень дзень карацейшы. Грыбнікі часам едуць у лес пасля пяці гадзін, а ў сем-восем ужо пачынае цямнець. Вось і заблуджваюцца, – дзеліцца досведам сваёй працы Віталь Паслед.**

Сёлета пакуль не было згубленых у лесе. Аднак пра актуальнасць праблемы сведчаць прыклады з мінулага года. Сваякі прывязуць бабулю ў лес, самі паедуць. Праз пару гадзін прыязджаюць забіраць – і ўжо не могуць знайсці, выклікаюць міліцыю.

Летась пад восень у грыбы на Вілейшчыну прыехалі зяць з цешчай і яе суседкай. Праз пэўны час двое выйшлі, а суседка заблукала. Спярша шукалі самі, пасля дзесяці вечара звярнуліся ў міліцыю. Казалі, што ўжо не першы раз у гэтым лесе. Не разумелі, як магло так атрымацца.

Згубленую жанчыну знайшлі ў вёсцы Цна. Яна пасля казала, што ішла напрасткі, нікуды не зварочвала, каб не заблукаць яшчэ больш. У выніку выйшла ў вёску.

Па словах Віталя Паследа, найдаўжэй за гады яго працы ў лесе прабылі два згубленыя грыбнікі: блукалі дзень, ноч і наступны дзень да вечара.

– Калі чалавек моцны і здаровы, – кажа Віталь, – гэта не так страшна. Практычна з любога лесу на Вілейшчыне чалавек або сам можа выйсці да нейкай вёскі, або яго знойдуць міліцыянеры.

**Але не ўсе пошукі заканчваюцца хутка. Так, жыхарку Малявічаў на Вілейшчыне, што ў 2015 пайшла ў лес каля вёскі, не знайшлі.**

У лесе тая была разам з дачкой. Дзяўчына вярнулася, а маці – не. Пошукі ўскладніла тое, што дачка паведаміла пра зніканне маці праз пяць-шэсць дзён. Да таго ж, лес там хоць і не асабліва вялікі, але цяжкапраходны, з балотам.

– Вышук мы не прыпыняем, нават калі згубленаму чалавеку далёка за 70, – кажа Віталь Паслед.

**Калі чалавека не знаходзяць за дзесяць сутак пасля знікнення, звесткі перадаюць у раённы аддзел Следчага камітэта, і там заводзяць крымінальную справу.**

### Заяву пра знікненне прынялі. Што далей?

У міліцыянераў распрацаваны алгарытм дзеянняў. Яны выязджаюць на месца, дзе зніклы быў апошні раз. Гутараць са сваякамі, суседзямі. Звяртаюцца на месца працы або вучобы. Важна атрымаць падрабязную характарыстыку чалавека.

У апошнія некалькі год міліцыянеры адпрацоўваюць і старонкі ў сацыяльных сетках, калі зніклы чалавек іх меў. Тут звяртаюць увагу на сяброў, якія маглі б дапамагчы ў пошуках. Разглядаюць фотаздымкі, каб зразумець, дзе карыстальнік сацсетак праводзіў час.

### Хто дапамагае міліцыі ў пошуку

Калі ёсць неабходнасць шукаць у лесе, на дапамогу прыходзіць пошукавы атрад «Анёл», салдаты. Валанцёры з «Анёла» маюць высокаякасную gps-апаратуру, каардынуюць дзеянні іншых памочнікаў.

А як жа сумленныя грамадзяне, якія чытаюць у СМІ арыенціроўкі з просьбай патэлефанаваць, калі ім нешта вядома пра зніклага? Па словах Віталя Паследа, такіх званкоў няшмат.

Пару месяцаў таму міліцыянеры шукалі маладую жанчыну з Вілейшчыны, якая спецыяльна хавалася. Заўважыўшы яе ў вёсцы, мясцовыя жыхары патэлефанавалі ў міліцыю.

Калі некалькі год таму пра знікненне адной бабулі расказалі на рэспубліканскім тэлебачанні, у Вілейскі РАУС патэлефанавалі некалькі мінчан і сказалі, што бачылі падобную жанчыну ў Мінску.

– Мы, канешне, дзякавалі людзям за неабыякавасць, але разумелі, што жанчына не магла апынуцца ў сталіцы. Праз пэўны час яе цела знайшлі ў рацэ, – прыгадвае Паслед.

### Большасць злачынцаў хаваецца ў Расіі

Сёння ў спісе злачынцаў, якіх трэба знайсці вілейскай міліцыі, дзесяць чалавек. Па словах Віталя Паследа, толькі пра двух з іх няма ніякіх звестак. Большасць з гэтых дзесяці хаваецца ў Расіі. Усе здзейснілі крадзяжы, характарызуюцца адмоўна.

– Амаль усе дзесяць – людзі, якія ўжо сядзелі ў турме. Не хочуць туды вяртацца, вось і хаваюцца, – кажа Віталь Паслед.

### Наша справа – знайсці чалавека

Вілейка – горад невялікі, заяў пра знікненне людзей у РАУС падаюць няшмат. Таму, па назіраннях маёра, нельга вызначыць нейкія катэгорыі людзей, якія губляюцца найчасцей.

Былі і навучэнцы, што з'язджалі дадому і не вярталіся вучыцца. Былі і рабочыя, якія атрымаўшы заробак, гулялі тры дні. Могуць міліцыянеры расказаць гісторыі і пра тых, хто знік паехаўшы на заробкі, згубіў мабільнікі і доўга не звязваўся з роднымі.

– А некалькі год таму ў аддзяленні крымінальнага вышуку быў своеасаблівы «бум» зваротаў. Шматлікія сем'і хацелі прыватызаваць жыллё. А адзін з прапісаных з'ехаў на заробкі ў Расію і доўга не паведамляў пра сябе. Без згоды ўсіх прапісаных прыватызаваць кватэру было немагчыма. Вось і пайшлі людзі з заявамі.

**– Канешне, пытаемся ў заяўнікаў, чаму не шукалі сваяка раней. Але па сутнасці нам без розніцы, навошта людзі раптам сталі шукаць родных. Наша справа маленькая – знайсці чалавека, – кажа Віталь Паслед.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як Астравец адсвяткаваў юбілей



Від на Астравец з дэльтаплана.



Жывая статуя.



Гасцям вельмі спадабалася свята.

АСТРАВЕЦ

## Галоўныя ўрачыстасці Дня горада правялі 25 жніўня.

– Падрыхтоўка была аднačасова і простай, і складанай. Калі разумееш, што твой родны і любы горад святкуе юбілей, гэта здорава. Складанасць была ў тым, што актыўная фаза падрыхтоўкі пачалася прыкладна за два месяцы, цяжка было ўсё паспець. Наогул, рыхтаваліся ўвесь год. Планавалі доўгатэрміновыя мерапрыемствы – да прыкладу, устаноўку скульптуры ласося. Вырашылі выдаць кнігу «Гісторыя Астравецкай сярэдняй школы № 1» **Ларысы Мартынавай.** Рамантавалі дарогі, фасады будынкаў, – кажа загадчык сектара культуры Астравецкага райвыканкама **Наталля Сенюць.** – Спрабавала зрабіць праграму разнастайнай. Каб зладзіць не толькі «лёгкія» мерапрыемствы кшталту гандлю. Хацелася паказаць, чаго дасягнуў горад калі не ў 550 гадоў, то ў апошнія шэсць. Бо ў 2012 Астравец стаў горадам.

Па словах Сенюць, Інжынірынгавы дывізіён Расатама распрацаваў праект «Зялёны квадрат» з чатырма інтэрактыўнымі зонамі – «Вада», «Сонца», «Паветра», «Зямля». Кожную напоўнілі адметнымі актыўнасцямі. Напрыклад, у зоне «Вада» правялі спартыўнае свята «Плаванне «Хоць на чым» (чытайце на старонцы 22).

### Што атрымаў горад пасля свята

На святкаванні адкрылі дзве скульптуры ласося – у Астраўцы і ў Варнянах. Астравеччына знакамітая тым, што сюды прыходзіць на нераст кумжа – рыба з сямейства ласосевых – і атлантычны ласось. Гэтыя віды цяпер занесеныя ў «Чырвоную кнігу».

– Гадоў дзесяць таму месцаў, куды рыба прыходзіла на нераст, было менш за дзесяць. Цяпер вучоныя кажуць, што іх больш за сто. Дзякуючы актыўнасці Акадэміі навук, «Аховы птушак Бацькаўшчыны», зацікаўленасці арганізацый раёна, папуляцыя павялічваецца. Каб прыцягнуць увагу да ласося, ўстанавілі менавіта гэтую скульптуру, – тлумачыць Наталля.

Свята доўжылася дзень, але пасля яго горад можа карыстацца яшчэ двума новымі аб'ектамі.

– Жыхары атрымалі прыемны падарунак – фізкультурна-аздараўленчы комплекс. У Астраўцы ніколі не было басейна. Цяпер ёсць. Яшчэ з'явілася пажарна аварыйна-выратавальная частка №3. Колькасць насельніцтва расце, неабходнасць дапамагаць таксама, – расказвае Наталля.

На галоўнай плошчы выступіў узорна-паказальны аркестр Брэсцкай памежнай групы, таксама ён забяспечыў музыкальнае суправаджэнне роце ганаровай варты органаў памежнай службы.

На стадыёне школы №2 працавала ваенная пляцоўка, дзе бясплатна частавалі салдацкай кашай, юшкай. Правялі выставу службовых сабак – каля 20 парод, у тым ліку шчанюкоў.

На свяце прысутнічалі і байкеры. Яны зрабілі выставу тэхнікі «Рэтра і Кастам Мота» – рэтрааўто, матацыклы, фотазону.

– Людзей на кожнай пляцоўцы было мора. Жадаючыя маглі пакатацца на дэльтаплане. Многія астраўчане дзякавалі за выдатна арганізаванае свята. Вельмі прыемна, што жыхары і госці атрымалі добрае задавальненне ад святкавання Дня горада.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота Юрыя ГОРЫДА**
**vk.com/goridfoto**
**instagram.com/yurygorid**

# Як сям'я з Дубіны раздзялілася паміж Амерыкай і СССР

**Гісторыя сям'і з Дубіны склалася так, што сваякі апынуліся падзеленымі межамі і гадамі. Дачка так і не змагла сустрэцца з бацькамі, а сясцёр і братоў за акіянам пабачыла праз дзесяцігоддзі. А калі вярнулася, савецкі муж не стрымаўся ад плачу – ён да апошняга не верыў, што каханая пасля Амерыкі вернецца да яго.**

ВАЛОЖЫН

Пра драматычны лёс сваякоў для чытачоў «Рэгіянальнай газеты» расказаў былы дырэктар Дубінскай школы **Васіль Рамановіч** і яго дачка **Наталля**.

## Паехалі ў Амерыку без дачкі

Пачалася дубінска-амерыканская гісторыя з пачатку 20 стагоддзя. Дзед нашага суразмоўцы па матчынай лініі, таксама **Васіль**, толькі з прозвішчам **Мучынскі**, вярнуўся з руска-японскай вайны. У 1906 годзе вербаўшчыкі запрасілі яго на шахцёрскія заробкі ў Амерыку, разам з жонкай прынялі рашэнне пагадзіцца.

Жонка засталася ў Дубіне, а праз дзевяць месяцаў нарадзіла дачку **Еву**. Жанчына вырашыла не браць у цяжкую дарогу немаўля. Пакінула яе бацькам, а сама паехала да мужа.

Сям'я асела ў Стэнфардзе. Муж працягваў працу шахцёра, жонка гандлявала ва ўласнай лаўцы. Нарадзілі яшчэ трох сыноў і дзвюх дачок. Першая з іх, **Крысціна**, ведала родную мову бацькоў.

Там часам Ева расла без таты і мамы. Мінула Першая сусветная. Дубіна трапіла пад польскі ўплыў. Вырашылі, дзяўчынка падрасла, удалы час завезці дзіця да бацькоў. У дарогу сабраўся дзядзька. Аднак меў неасцярожнасць пакінуць у Дубіне дзяўчыну. Тая пабаялася, што застанецца без мужа і выправілася вяртаць жаніха з дарогі. Разам з пляменніцай.

Забраць дачку ў Мучынскіх усё не атрымлівалася. З часам Ева выйшла замуж, змяніла прозвішча. Пра ўз'яднанне сям'і ўжо не магла ісці гаворка.

Жанчына так і не сустрэлася з бацькамі. А вось з іншымі сваякамі, якіх у ЗША стала шмат, пабачылася ў 60-я гады.

## З-за амерыканскай радні не стаў лётчыкам

Сын Евы Васіль нарадзіўся ў 1931 годзе. У Рамановічаў было сямёра дзяцей. Васіль быў старэйшым з хлопцаў, перад ім нарадзілася сястра. І праз тое, што меў амерыканскіх сваякоў, атрымаў нямала і радасці, і клопатаў.

У Другую сусветную вайну школу ў Дубіне спалілі партызаны – каб там не пасяліліся немцы. Памятае, што жыхары баяліся партызан, бо забіралі ежу – самае галоўнае ў вайну.

У пяты і шосты клас хадзіў у Чабаі. Дырэктарам паставілі прыезджага рускага, які вельмі любіў лазню. У Чабаях яе не было, таму перавёў школу ў Міхалова, у будынак, дзе да 1939 года быў польскі дзіцячы дом. З лазняй.

Пасля заканчэння сямігодкі захацеў паступіць у лідскае педвучылішча, дзе вучылася старэйшая сястра. Яна параіла спачатку пайсці ў старэйшыя класы. У Валожыне жыў на кватэры і закончыў школу.

Бацька параіў уладкавацца так на вучобу, каб за казённы кошт. Вырашыў з сябрам паспрабаваць паступіць у авіяцыйнае вучылішча ў Чалябінскай вобласці. Расказвае, пабачыў шмат бедных, неахайных людзей, таму вырашыў вяртацца дамоў. Дачка Наталля ўступае ў размову: «Не хітры, не тая прычына была». Тады сваякі прызнаюцца: для паступлення патрэбна было даць усе дакументы. А ў яго ў анкеце – замежныя сваякі. Хто ж такога ў лётчыкі пусціць?

Вярнуўшыся, спачатку дапамагаў бацьку-кладаўшчыку. Пасля прынялі ў школу ў Дубіне. Паступіў на завочнае аддзяленне ў педінстытут.

Пасля другога курса адправілі служыць. Пасля арміі накіравалі ў Чабайскую школу, праз год вярнулі ў Дубіну. Адпрацаваў настаўнікам гісторыі, а праз год паставілі дырэктарам – на 36 год.

З жонкай **Франяй** пазнаёміўся яшчэ да арміі. Яна таксама працавала настаўніцай, прыехала са Старых Дарог. Маладыя пажаніліся і завялі першае дзіця яшчэ да таго, як Васіль пайшоў у армію. Разам з жонкай выгадаваў трох дачок – Наталлю, **Жанну** і **Аліну**.


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Былы дырэктар Дубінскай школы Васіль Рамановіч, сын Евы.


Ева перад сваім ад'ездам у Амерыку. Фота сямейнага альбома.


Фота з сямейнага архіва Рамановічаў.

Вось так прыбралі савецкую сястру сваякі ў Стэнфардзе. Здымак прыкладна 1967 года.

## Як у Дубіну прыехалі амерыканцы

У 1961 годзе Крысціна з мужам, сястра Евы, прыехала ў Дубіну. Прывезлі дзіва – фотаапарат «Палароід», шмат здымалі. На адным з фота зафіксавалі стары плот, за якім адна з дачок мые бялізну ля калодзежа. Пасля паказвалі гэтае фота іншым родным у ЗША – усіх уразіла беднасць, у якой жыла сваячка. З Амерыкі ў Дубіну пачалі перасылаць накладзеным плацяжом рэчы, нават бялізну.

Перад наступным прыездам сельсавет выдзеліў Рамановічам грошы на агароджу – каб не было сорамна перад амерыканскімі гасцямі.

Сваякі падарылі беларускім родзічам скарб – дзве «Волгі», белую для сям'і Евы і чорную для іншых сваякоў. Наталля прыгадвае белы аўтамабіль:

– Прыгналі пад хату, брэзентам накрылі, і не ведалі ж, як перад ёй танцаваць. Ужо можна расказаць.

Пасля такога Рамановіча выклікалі ў раён – што за падарункі перасылаюць з Амерыкі дырэктару школы і члену партыі? Прабачылі таму, што не хаваў набытак, а шчыра прызнаўся ў свой час, што мае сваякоў за акіянам.

Наталля памятае і іншы момант. Калі амерыканскія сваякі гасцілі, у стозе сена ся дзелі супрацоўнікі КДБ. Калі дзеці падышлі, прыклалі палец да вуснаў.

А на дзень нараджэння Наталлі і яе стрыечнай сястры прыслалі неверагодна прыгожыя пуховыя коўдры ў паветраныя шарыкі і аксамітныя сарафаны. Для дзяўчынак з вёскі гэта была проста казка.

У 1967 годзе Ева ўсёж паехала на сустрэчу да родных у ЗША на два месяцы. Збіралі ўсёй вёскай – зрабілі прычоску, нашылі ўбораў. Але там родзічы не выпускалі яе ў свет тыдзень. Наводзілі прыгажосць. Палачылі зубы, завялі на манікюр і ў цырульню.

Прыехала назад з чамаданамі падарункаў. Муж сустрэў і кажа: «А, Евачка, ты ж амерыканка!». І не стрымаў слёз. Прызнаўся: верыў, што застанецца ў ЗША.

Цяпер Рамановічы крыху падтрымліваюць сувязь з амерыканскімі сваякамі. Але моладзь ужо не мае такога сантыменту да беларускай радні.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Іван Драўніцкі – нястомны шукальнік, які натхняў краязнаўцаў

МЯДЗЕЛ

**Іван Драўніцкі, або Яська-краязнаўца, разам з журналістам Міхалам Чарняўскім рэгулярна друкавалі краязнаўчыя артыкулы на старонках мясцовых газет.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Іван Драўніцкі натхняў краязнаўцаў асабістым прыкладам.

### Засвірская мумія ў бутэльцы

Школьнікам мне было цікава чытаць расповеды пра нашу гісторыю. Адзін толькі расповед пра мумію з Засвіры чаго варты. Жанчына пасля смерці каханага змясціла яго астанкі ў шкляную бутэльку і не давала пахаваць у зямлі. І толькі пасля вайны мумію пахавалі ў невядомым месцы. Працяглы час думалася, што гэта легенда, пакуль у Свіры я не пабачыў чорна-белы фотаздымак гэтай муміі.

Гістарычныя артыкулы развівалі юнацкае ўяўленне, прымушалі задумацца над сэнсам жыцця.

Падчас магутнага ўздыму Адраджэння ў пачатку 1990-х з'явіліся новыя кнігі, новыя перыядычныя выданні. Беларуская гісторыя скінула з сябе камуністычныя ланцугі і развівалася шпаркімі крокамі.

З'явілася шмат знаходак і ў краязнаўстве. З удзелам Івана Драўніцкага выдалі кнігу «Памяць. Мядзельскі раён». У свой час – самае грунтоўнае выданне па гісторыі Мядзельшчыны, дзе сабраныя разнастайныя звесткі па гісторыі нашага роднага краю.

### Вывучыць Мядзельшчыну ад Свіры да Княгініна

Краязнаўства натхняла мяне падчас вучобы на гістарычным факультэце на пошукі новых звестак. Маёй летуценнай юнацкай марай было дэталёвае вывучэнне ўсёй Мядзельшчыны – ад Свіры да Княгініна.

З юнацкім запалам узяўся за нялёгкую справу і шмат у чым атрымліваў падтрымку ад Драўніцкага. Ён паказваў прыклад руплівага шукальніка даўніны. Яго стараннасць і працавітасць проста ўражвалі. Раўняючыся на яго, я таксама імкнуўся не адставаць у краязнаўстве, шмат працаваў у архівах і бібліятэках сталіцы.

> **Галоўным клопатам для краязнаўцаў было захаваць пэўны баланс у натуральным жаданні ліквідаваць як мага больш «белых плям» пры даследаванні роднай гісторыі і пры гэтым пазбегнуць канфлікту з існуючай ідэалогіяй.**

Іван Пятровіч шмат друкаваў нарысаў і кніг. У маёй жа творчасці праз пэўны час была дасягнуты пункт раўнавагі.

### Перадавыя тэхналогіі не перашкаджалі шанаваць спадчыну

Патрабавалася шмат вольнага часу для асэнсавання ўсяго назапашанага матэрыялу. Новым штуршком для творчасці стаў кароткі перыяд жыцця ў Фінляндыі. Пакуль жыў у гэтай краіне, пашчасціла ў дадатак пабываць у пяці еўрапейскіх сталіцах.

Фінляндыя ўразіла высокімі даходамі простага насельніцтва і надзвычай моцнай сістэмай сацыяльнай абароны. Перадавыя тэхналогіі даўно выкарыстоўваліся ў адукацыі, гандлі, транспарце. Разам з мадэрнізацыяй, як ні дзіўна, жыхары Еўропы сталі больш шанаваць спадчыну продкаў, адметныя мясцовыя традыцыі.

Новыя ўражанні пераканалі мяне ў тым, што надышла пара ўжываць новыя тэхналогіі пры гістарычных даследаваннях. Пад іх уздзеяннем вырашыў друкаваць свае даследаванні выключна ў інтэрнэт-прасторы. З таго часу імкнуся прытрымлівацца гэтага правіла, хаця апошнім часам некалькі артыкулаў друкаваў і ў газетах.

Адкрыў для сябе і новае захапленне – Вікіпедыю, да якой раней ставіўся несур'ёзна. Зараз лічу Вікіпедыю магутным сродкам адукацыі ў недалёкай будучыні. Агульная колькасць маіх артыкулаў там – больш за дзвесце. І спасылкі на выданні Драўніцкага спатрэбіліся амаль для кожнага.

> **Агульнымі высілкамі мы паднялі краязнаўства Мядзельшчыны на новы ўзровень, насыцілі новымі фактамі і вобразамі.**

Ацэньваючы нашу супольную дзейнасць на гэтай ніве, магу смела заявіць, што такога ўзроўню даследаванні не змаглі б ажыццявіць ніводны са сталічных прафесараў ці нават аўтарскіх калектываў. Толькі такія самаахвярныя людзі, як Іван Пятровіч Драўніцкі, якія выраслі на гэтай зямлі, адчуваюць яе подых і па-сапраўднаму шануюць, здольныя адлюстраваць усю прыгажосць і зачараванне.

### Пра неабмежаваныя магчымасці гістарычных ведаў

Але не ўсе абывацелі разумеюць важнасць краязнаўчых ведаў. Перыядычна сустракаюцца асобы, якія пытаюцца, каму патрэбная гісторыя ў наш час.

> **Сапраўды, гісторыю ў кішэнь не пакладзеш. Але ж біткоін таксама нельга пакласці ў кішэню, хаця ён і важка каштуе…**

Прывяду некалькі прыкладаў пра неабмежаваныя магчымасці гістарычных ведаў. Будучы яшчэ студэнтам, сябраваў з аднакурснікам **Юрасём Грыбоўскім,** цяпер – прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта. Падчас вучобы ён выдаў кнігу пра беларусаў з польскай арміі генерала Андэрса. Я прапанаваў яму зрабіць выбарку з яго кнігі і скласці асобны спіс ураджэнцаў Мядзельшчыны, каб потым надрукаваць у раённай газеце. Гэта мы зрабілі. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць. Чалавек з Занарачы знайшоў у спісе прозвішча свайго бацькі, пра якога раней нічога не ведаў.

А вось яшчэ прыклад. Каля Гануцкай царквы ў вёсцы Ручыца Вілейскага раёна знаходзілася магіла двух невядомых сібірскіх казакоў, што прынялі пакутніцкую смерць. У 2015 годзе, даследуючы тэму Свянцянскага прарыву ў верасні 1915 года, я знайшоў дакументы, што дазволілі потым вілейскім краязнаўцам высветліць іх прозвішчы і ўстанавіць мемарыяльную шыльду…

> **Тужліва зараз на сэрцы. Няма побач з намі слыннага пашукавіка Івана Драўніцкага. Толькі высокі гай шуміць на канстанцінаўскім цвінтары.**

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ, Мядзел.**

---

**● КАЛЯНДАР**

**31 ЖНІЎНЯ**

**1432.** Ноччу на 1 верасня князі **Жыгімонт Кейстутавіч** і **Сямён Гальшанскі** здзейснілі дзяржаўны пераварот, замах на вялікага князя Свідрыгайлу – пачатак грамадзянскай вайны ў ВКЛ.

**1 ВЕРАСНЯ**

**1853.** Нарадзіўся беларускі і польскі фалькларыст, этнограф, археолаг **Міхал Федароўскі.**



**1906.** У Вільні выйшла першая легальная беларуская газета «Наша доля». Першае выступленне ў друку Якуба Коласа.

**1939.** Пачатак Другой сусветнай вайны. Нацысцкая Германія напала на Польшчу.

**2 ВЕРАСНЯ**

**1945.** Капітуляцыя Японіі – заканчэнне Другой сусветнай вайны.

**1996.** Украіна ўвяла нацыянальную валюту – грыўню.

**3 ВЕРАСНЯ**

**1927.** Нарадзіўся Алесь Адамовіч, беларускі пісьменнік.

**1967.** Швецыя перайшла на правабаковы аўтамабільны рух.

**2004.** Падзеі ў Бяслане, Паўночная Асетыя. Падчас штурму расійскім спецназам школы з закладнікамі загінула каля 300 чалавек. Больш за палову з якіх – дзеці.

**4 ВЕРАСНЯ**

**1998.** Заснаваная кампанія «GOOGLE»

**5 ВЕРАСНЯ**

**1984.** Нарадзіўся паэт **Рагнед Малахоўскі.** Жыў на Мядзельшчыне. У 2002 годзе скончыў Нарацкую сярэднюю школу. Ад 2003 года рэгулярна выступае з літаратурнымі творамі ў рэспубліканскай перыёдыцы, калектыўных зборніках і анталогіях. Вершы перакладаліся на рускую і балгарскую мовы. Аўтар паэтычных зборнікаў.



**6 ВЕРАСНЯ**

**1933.** Абмен вязнямі ў Коласаве, на савецка-польскай мяжы. **Францішка Аляхновіча** СССР абмяняў на **Браніслава Тарашкевіча.**

**Мікола ГАЙДУК.**

# З юшкай, тэлескопам і танцамі пад дажджом

## Лета на Вілейшчыне правялі трохдзённым фестывалем

ВІЛЕЙКА

**Апошнія выхадныя лета сабралі амаль сотню людзей у вёсцы Навасады, што месціцца ў Нароцкім сельсавеце.**

Гасцінны «Дом ля возера» і яго гаспадар **Алег Куралесаў** прапанавалі гасцям багатую праграму, у якой былі прагляды фільмаў, дыскусіі з запрошанымі экспертамі, выставы фотаздымкаў і сучаснага мастацтва, абавязковыя пасядзелкі ля вогнішча. Патушыць агонь і бадзёры настрой гасцей не змаглі нават дажджы, што прайшлі над Навасадамі ў тыя дні.

**Гэтая мясціна ўжо не першы раз збірае вакол сябе жыхароў рэгіёна, якія любяць з карысцю праводзіць час на прыродзе. Сёлета ў «Доме ля возера» ўжо прайшоў дзень нямецкай культуры, некалькі кінапаказаў.**

### Быў нават тэлескоп і турнір рыбаловаў

На 23-25 жніўня арганізатары прадумалі праграму настолькі, што без справы не сядзеў ніхто. Дзеці гулялі з мячом і выйгравалі падарункі за найлепшы малюнак. Аматары дыскусій маглі абмеркаваць стан сучаснай адукацыі з **Ганнай Севярынец** і задаць пытанне псіхолагу **Алене Васкрасенскай**.

Хто любіць спакойны адпачынак, глядзелі фільмы і назіралі за зоркамі. Нібыта спецыяльна для гасцей у першы вечар, калі **Мікалай Святоха** прывёз у Навасады тэлескоп, хмары на начным небе разышліся і далі месяцу і зоркам ззяць на ўсю моц.

Тыя, хто не любіць сядзець на месцы, бралі ўдзел у майстар-класе па народных танцах ад этнаграфічнага гурта «Кола». **Вольга Трубач** і **Віталь Назарэвіч** паказалі, як не адтаптаць ногі адно аднаму, танцуючы польку і кракавяк. Але нават рытмічнае «раз-два-тры» не ўсім дапамагло справіцца з задачай.

Танчыць без правілаў можна было на іншай пляцоўцы – перад сцэнай, на якой згралі гурты «Белая варона» з Вілейкі і «Станцыя» з Мінска. Моцны дождж, які пачаўся падчас выступу, не спыніў ахвотных патанчыць.

Каму не лянота было ўстаць а пятай раніцы, удзельнічалі ў турніры рыбаловаў. Аказалася, што возера, ля якога размешчаная сядзіба, багатае на рыбу. Шчупак рыбака-пераможцы заважыў на 800 грамаў.

Свае «кнігі» ў Навасады прывезла маладзечанка **Юлія Мароз** і яе «Жывая бібліятэка». Чым жыве тайскі баксёр, мама дзіцяці з сіндромам Дауна, былы нарказалежны і самая сапраўдныя вядзьмарка? Даведацца аб гэтым можна было, пераходзячы ад адной «кнігі» да другой.

### Няхай у наступны раз будзе больш гасцей

– Я вельмі задаволены тым, як усё прайшло, – кажа гаспадар «Дома ля возера» Алег Куралесаў.

**– Цешыць, што людзі дабраліся да нас з розных гарадоў. Адзінае, хацелася б бачыць на мерапрыемствах больш жыхароў з бліжэйшых вёсак, сёння іх было не так шмат. Спадзяюся, спрацуе сарафаннае радыё і наступным разам кожны з сённяшніх гасцей прыхопіць пару-тройку сяброў.**

Госці былі шчодрыя на падзякі арганізатарам і пыталіся, калі будуць наступныя мерапрыемствы. Каб не прапусціць іх, сачыце за абнаўленнямі ў групе «Дом ля возера. Навасады» у сацыяльных сетках. Уваход на імпрэзы заўсёды свабодны. Як піша гаспадар у суполцы, тут рады кожнаму госцю. І гэта адчуваецца.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота забяспечана Віталём НАЗАРЭВІЧАМ.**



Удзельнікі фестывалю «Дом ля возера» сабраліся на верандзе паслухаць гітару.



«Жывая бібліятэка». «Кніга» расказвае пра сябе.



Рознакаляровае дрэва намалявалі ўдзельнікі свята.



Некаторыя прачнуліся на світанні, каб парыбачыць.



Выхадныя рамантыкі, асалоды і карысці – вось чым стаў фэст «Дом ля возера».

# «Чапляйся да нас»

## Маладзечанцы зладзілі фестываль з такім слоганам, каб зрабіць горад больш прывабным для моладзі


Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** Адскануйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/festmola**

МАЛАДЗЕЧНА

**25 жніўня на пляцоўцы Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне прайшоў летні фэст «Прышчэпка». Яго за месяц падрыхтавалі неабыякавыя гараджане, якія не паленаваліся арганізаваць свята для саміх сябе і іншых маладзечанцаў.**

– Мы назіраем за тым, што робяць актывісты ў іншых гарадах, – расказвае арганізатар фестывалю, заснавальнік адукацыйнага цэнтра «Адкрытая прастора» **Валянціна Сідоркіна.** – Заўважаем, што цяпер вельмі папулярна рабіць гарадскія фэсты з майстар-класамі, лекторыямі, дзе кожны можа знайсці пляцоўку для адпачынку. Падумалі, што ў нас падобнага няма. Значыць, трэба зрабіць.

На працягу некалькіх гадзін каля музея людзей не меншала. Адразу на ўваходзе размяшчалася фотазона. Жыхары ахвотна пазіравалі з таблічкамі «Маладзечна, я люблю цябе», «Застануся ў Маладзечне, Мінск пачакае». Маленькія маладзечанцы былі ў захапленні ад аніматара ў двухметровым касцюме Трансформера.

У памяшканні размясціліся разнастайныя пляцоўкі: вучылі дзетак маляваць, заварвалі чай, рабілі макіяж. Быў нават столік для маленькіх прынцэс, дзе можна было паспрабаваць дзіцячыя памады ці лакі. А на ўваходзе была кампазіцыя з канструктара «Лега», выкладзеная ў форме цэнтра Маладзечна. Яе склаў шасцігадовы гараджанін **Антон Куратнік.**

У двары за музеем размясціліся пляцоўкі для настольных гульняў, малявання, танцаў. Напрыканцы для наведнікаў выступіў мінскі музычны гурт Tempo Bay.

Акрамя забаўляльных пляцовак, у межах свята прайшла лекцыя пра Маладзечна і яго культуру ад намесніка дырэктара па навуковай працы **Наталлі Палтавец.**

Гарачыя абмеркаванні выклікала тэма ток-шоу «Людзі і горад: зробім Маладзечна лепшым». Хтосьці выказаўся, што гораду вельмі не хапае руху, актыўнасцяў, цікавых моладзі. Хто мог бы ладзіць крэатыўныя імпрэзы? Адкуль пра іх даведацца гараджанам і гасцям горада? А ці ёсць сэнс штосьці ствараць, калі дайсці да месца правядзення немагчыма з-за кепскага асфальту? Ці павінен думаць пра асфальт той, хто нешта стварае?

**Вострыя пытанні можна вырашыць, толькі калі пачаць іх абмяркоўваць з зацікаўленымі жыхарамі, якія гатовыя ўзяць частку працы па развіцці горада ў сваю адказнасць.**


Фота Ігара ПАЛЬЫНСКАГА.

Кампазіцыю цэнтра Маладзечна з канструктара склаў маленькі гараджанін Антон Куратнік.


Дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея Раіса Казановіч.



Таблічкі з прызнаннямі ў любові Маладзечну карысталіся папулярнасцю.

Удзельнікі дыскусіі пагаджаліся ў тым, што прыйшоў час змяняць горад да лепшага. Ёсць самае галоўнае – людзі, якія распачалі рух да стварэння крэатыўнай прасторы ў Маладзечне.

### Як увасобіць ідэю з нуля за месяц

У першую чаргу арганізатары – Валянціна Сідоркіна і культурны менеджар **Ганна Холад** – задаліся пытаннем, якую абраць пляцоўку, дзе знайсці ўтульнае і зручнае месца, якое цалкам бы адпавядала ўсім задумам.

– Сустрэлі нас вельмі-вельмі цёпла, прапанавалі ўсе рэсурсы, якія маюць. Вельмі добра, што мы атрымалі падтрымку ад такой установы, як музей, – падсумоўвае Сідоркіна.

Актыўную падрыхтоўку арганізатары пачалі прыкладна за месяц. Абралі датай 25 жніўня – канец лета, апошнія выхадныя перад школай, калі асабліва хочацца нечага незвычайнага. Часу крыху бракавала, прызнаецца арганізатар.

– Канешне, гэта не вельмі шмат, – расказвае арганізатар. – У нас не было канкрэтнай канцэпцыі, назвы, лагатыпу, людзей, якія будуць дакладна гэта рабіць. Нічога не было.

Далучыцца запрасілі прадстаўнікоў розных арганізацый. Пагадзілася каля сарака чалавек.

– З такой падтрымкай гэта стала нашмат прасцей. Кожны дадаў свой унёсак, кожны адказваў за сваю пляцоўку. Гэта вельмі аблегчыла нашу працу, – дзеліцца Сідоркіна.

Рыхтуючы свята, давялося панервавацца – ці хопіць месца, ці прыйдуць людзі. Атрымалася камфортна і «тое, што трэба».

Працягам спробы змяніць горад стане дыскусійны клуб, які «Адкрытая прастора» плануе на восень. Не менш за чатыры разы ахвотныя сустрэнуцца і абмяркуюць, што можна палепшыць у горадзе і зрабіць сваімі сіламі.

### Фестываль у музеі? Чаму не!

Тэрыторыя каля музею, у холе, за ім паказала сябе выдатным месцам для падобнага мерапрыемства. Хто з гараджан мог здагадацца, што ў гэтым дворыку можна так утульна размясціцца ў самым цэнтры горада! Адкрытасць музея ў першую чаргу адбылася дзякуючы зацікаўленасці работнікаў дзяржаўнай установы. Вось што расказвае па ідэю імпрэзы дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Раіса Казановіч:**

– Калі нейкія мерапрыемствы ладзяцца з нагоды менавіта моладзі, то гэта самае дарагое, што можа быць для дзяржаўнай установы. Мы заўсёды адчыняем дзверы для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй, здаровым ладам жыцця, спадчынай, мінулым дзядоў і бабуль.

**Музей не павінен быць месцам толькі для сур'ёзных мерапрыемстваў і сустрэч. Каб заставацца цікавым, неабходна выглядаць больш сучасна і арыентавацца на моладзь.**

– Маладыя дзяўчаты звярнуліся з ініцыятывай правесці мерапрыемства для тых, хто знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку і займаецца вырабамі, цікавымі рэчамі. Мы адчынілі дзверы, каб яны аб'ядналіся. Каб была магчымасць пазаймацца дзеткам і ў той жа час каб маладыя жанчынкі змаглі дакрануцца да цудоўнага свету касметыкі, навучыцца правільна рыхтаваць сок і гатаваць фітачай, вучыць дзіця маляваць пальчыкамі і працаваць з ніткамі.

Работнікі музея спадзяюцца, што гэты фэст стане пачаткам новага актыўнага руху ў горадзе. Магчыма, хтосьці паглядзіць, якое свята зладзіла «Адкрытая прастора» і захоча паспрабаваць зладзіць нешта сваё.

– Мерапрыемствы і накіраванае на тое, каб не саромеліся зайсці ў музей. Каб прыходзілі тады, калі захочацца нешта даведацца. А можа і прапанаваць, – падагульняе дырэктар.

Калі чагосьці не хапае ў горадзе ці жыцці – зрабіце першы крок. І да вас абавязкова далучацца аднадумцы, якія дапамогуць давесці справу да ладу. Застанецца толькі атрымаць асалоду. Як на першым летнім гарадскім фестывалі ў Маладзечне «Прышчэпка».


Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@gmail.com
(8-033) 66-719-77


Фота Сяргея ПЛЮТО.

«Смаргонь» не змагла на гэты раз вырваць перамогу.

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Смаргонь» саступіла «Хіміку»

СМАРГОНЬ

25 жніўня смаргонцы прымалі дома каманду са Светлагорска.

Матч закончыўся з лікам 0:2 на карысць гасцей.

Па выніках 19 тура смаргонцы апусціліся на восьмы радок турнірнай табліцы, саступіўшы сёмую пазіцыю гомельскаму «Лакаматыву».

Для прэс-службы ФК «Смаргонь» даў каментар трэнер **Аляксей Дварэцкі** пра гол у распранальню:

– Заставалася дзве хвіліны да канца тайма, ужо хацелі перамовіцца з хлопцамі. Паказаць на хібы, а тут атрымліваем пенальці. Так бы пайшлі на перапынак з лікам 0:0, можна было б псіхалагічна нешта выраўняць і мадэляваць. Давялося ўсё кардынальна перабудоўваць і гуляць, ведаючы, што лік 0:1. Ну і ў канцоўцы прапусцілі яшчэ і другі.

**Паводле прэс-службы ФК «Смаргонь».**

## У гасцях «Чысць» прайграла

МАЛАДЗЕЧНА

25 жніўня «Чысць» змагалася ў гасцях з камандай «Слонім-2017».

Матч закончыўся з лікам 1:0 на карысць гаспадароў.

«Чысць» застаецца на апошнім, 15-м радку турнірнай табліцы першай лігі.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Ашмяны» выйгралі ў «Вікторыі»

АШМЯНЫ

Матч 25 жніўня ў гасцях у Мар'інай Горцы закончыўся для ашмянцаў перамогай з лікам 1:3.

Па выніках розыгрышу 19-а тура «Ашмяны» займаюць працягваюць займаць чацверты радок у турнірнай табліцы другой лігі. І паранейшаму адстаюць ад папярэдніка на тры ачкі. Рэчыцкі «Спутнік» зарабіў у 19-м туры таксама тры ачкі, як і ашмянцы.

## «Крумкачы» разбілі «Маладзечна»

МАЛАДЗЕЧНА

26 жніўня маладзечанцы выступілі ў гасцях у мінскіх «Крумкачоў».

Адзіны гол ад гасцей заляцеў у вароты саперніка на 21-й хвіліне ад Паўла Галубовіча.

«Крумкачы» змаглі забіць чатыры галы. Мінчанін **Зміцер Жданок** змог стаць аўтарам хэт-трыка. Ён змог забіць за матч адразу тры мячы – на 38-й, 39-й і 44-й хвілінах.

Па выніках розыгрышу 19-а тура «Маладзечна» застаецца на 12-м радку турнірнай табліцы. «Крумкачы» не змянілі другой пазіцыі.

Дарэчы, ў суботу, 1 верасня, на гарадскім стадыёне ў Маладзечне пройдзе спаборніцтва паміж мясцовай камандай і ФК «Асіповічы» з шостага радка турнірнай табліцы. Гульня пачнецца а 13 гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота «Астравецкай праўды», ostrovets.by.

Пераможцы «Плавання »Хоць на чым» – аднаго з самых незвычайных астравецкіх спаборніцтваў.



У змаганні за Кубак па валейболе астраўчане не змаглі выбіцца ў лідары.



На спаборніцтве «Астравецкі асілак» удзельнікі цягнулі трохтонны аўтамабіль.

# На 550-годдзе Астраўца плавалі хоць на чым і змагаліся асілкі

АСТРАВЕЦ

**На юбілеі горада не абмінулі ўвагай яркае спартыўнае жыццё Астравеччыны.**

25 жніўня на пляжнай зоне каля вадаёма арганізавалі спартыўную пляцоўку.

Адным са спаборніцтваў быў традыцыйны «Астравецкі асілак». Пазмагацца ў сілавым экстрыме рашылася 11 маладзёнаў. Для іх падрыхтавалі пяць конкурсаў.

На этапе «Фермерскай прагулкі» патрэбна было перанесці чамаданы агульнай вагой у 80 кілаграмаў. Найлепш справіўся ***Аляксандр Лабачэўскі***.

Пасля ўдзельнікам давялося пераадолець вызначаную адлегласць, перакульваючы кола. Лабачэўскі адзначыўся і тут.

У выпрабаванні «Станавая цяга» канкурсанты падымалі штангу вагой 140 кілаграмаў. І тут рэкорд паказаў Лабачэўскі.

На этапе «Качыная прагулка» асілкі ў абдымках пераносілі 85-гадовы снарад. Найхутчэй адлегласць адолеў зноў жа Лабачэўскі.

У апошнім змаганні мужчыны перацягвалі трохтонны аўтамабіль. Тут найлепш справіўся **Павел Афонін**.

Тытул «Астравецкага асілка» узяў Аляксандр Лабачэўскі – менавіта ён быў пераможцам і летась. Другое месца атрымаў Павел Афонін, бронзу – **Марэк Лаўрыновіч**.

### Валейбол на пяску

Пазмагацца за Кубак раёна ў Дзень горада сабралася 15 каманд.

У фінал выйшлі тры ашмянскія каманды. Пераможцай сустрэчы стала каманда №2 з Ашмянаў.

### У плаванні хоць на чым перамаглі камунальнікі

У інтэрактыўнай зоне «Вада» ў межах святкавання Дня горада адбылося спартыўнае свята «Плаванне «Хоць на чым».

Госці свята маглі пакіраваць кацерам на радыёкіраванні.

Працавала спецыяльная пляцоўка, дзе праводзілі майстар-класы па вырабе парусНікаў, зробленых сваімі рукамі. А вечарам адбыўся іх масавы запуск.

На старт выйшла дзевяць каманд. Сярод іх «Флагман» з аўтамабільнага парка №4, «Аварыйная газавая служба» з Астравецкага раёна газавага забеспячэння, «Лясны крэйсер «Ёлкі-палкі» з Астравецкага лясгаса, «По Шчучьему веленню» з ДРБУ, «Формула 1» з гімназіі №1, «Машына хуткай дапамогі» з цэнтральнай раённай бальніцы, «Чырвоная маланка» з Астравецкага РАНС, «Bottle ship» з Беларускай АЭС і гульнявы комплекс «Крепыш» прадставіла Астравецкае РУП ЖКГ.

Гран-пры конкурсу аддалі Астравецкаму РУП ЖКГ. Самым хуткім быў «бутэлечны карабель» Беларускай АЭС, самай музыкальнай стала плавальная аварыйная машына Астравецкага раёна газазабеспячэння, а самы арыгінальны плот збудаваў Астравецкі лясгас.

**Паводле «Астравецкай праўды».**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Напітак з соку ягад або фруктаў.
3. Метал для апошняга комплекта медалёў.
4. Грашовая адзінка ФРГ.
6. Рака ў Ашмянскім і Астравецкім раёнах. Басейн Нёману.
8. Прымяненне фізічнай сілы.
10. Хмельны напітак з мёду.
12. Пасля Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый амаль усе караблі ПМС Расіі перайменавалі, акрамя яго.
13. Драпежная рака.
14. Племя, дзе муж станавіўся рабом.
15. Уладкаванае на полі сена.
17. Той, каго паслалі з тэрміновым паведамленнем.
23. Мат, вакзал, мабіль, партрэт, спын. Якое слова трэба дадаць перад гэтымі, каб атрымаць новыя?
24. Распазнавальны знак дзяржавы, горада, дваранскага роду.
25. У збяднелага шляхціча з … Ні гарэлкі няма для сугрэву, Ні гуркоў, ні маслін, Ані іншых раслін, – Акрамя геральдычнага дрэва.
28. За апошнія 300 год на Зямлі іх знішчылі дзве трэці.
29. Назва адной са скульптур з каменя, усталяванай сёлета ў Мядзеле.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Бакавы адростак на ствале дрэва.
5. З'едлівая, вострая, злосная насмешка, кпіны.
7. Будынак для стаянкі і рамонту машын.
9. Чаканы, але невядомы прыемны прадмет.
11. У спякотнай пустыні да яго заўсёды два-тры кіламетры.
15. Тое, што баіцца майстра.
16. Адміністрацыйны орган у СССР для аховы грамадскага парадку і бяспекі.
18. Першыя еўрапейскія наведнікі Новай Галандыі запэўнівалі, што краіна заселеная істотамі, якія ўяўляюць сабой сумесь аленя, птушкі і жабы. Што гэта за жывёла?
19. Аргенцінскі бальны танец.
20. Найбольш гэтых жывёл у Аўстраліі. Яны прыносяць ад 4 да 6 кілаграмаў карысці за год, не ўлічваючы мяса.
21. Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў …
22. Для таго, каб перапісвацца пад вадой, Жак Іў Кусто выкарыстоўваў алowак для грыму і белую яе.
26. Парадная гасціная або зала для прыёму гасцей у арыстакратычным доме.
27. Бясколерная, празрыстая саленаватая вадкасць, якая выдзяляецца асобымі залозамі вачэй пры раздражненні, болі або моцных перажываннях.
30. Спецыяліст, рабочы, які працуе на машыне.

## Адказы на крыжаванку з №34

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Вакансія. 6. Восень. 7. Верны. 8. Змест. 9. Суботнік. 10. Паветра. 11. Катаеў. 12. Абноўка. 14. Звон. 15. Крыж. 18. Варыянт. 19. Адпор. 20. Абадок. 21. Вобраз. 23. Агарак. 25. Чылі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Злучок. 3. Сярнічка. 4. Паварот. 5. Смаргонь. 6. Важны. 8. Заява. 9. Слаўцоў. 12. Акно. 13. Засада. 14. Заўвага. 15. Краявід. 16. Кола. 17. Коржык. 22. Паданне. 24. Пазл. 25. Чытанку.

# У Маладзечне адкрылі выставу Віктара Данілава

МАЛАДЗЕЧНА

Выставу «Лірыка акварэлі» мастака **Віктара Данілава** можна паглядзець у фае Палаца культуры ад 21 жніўня да 9 верасня. Уваход свабодны.

– На выставе прадстаўлены 30 карцін, – распавяла **Марына Юхневіч,** вядучы метадыст па аматарскіх аб'яднаннях і клубах.

На творчую сустрэчу з мастаком запрашаюць 6 жніўня ў 16.00 у выставачнае фае.

– Госці даведаюцца пра біяграфію Віктара, яго творчасць. Спадзяемся, што сустрэчу наведаюць неабыякавыя школьнікі і выкладчыкі, бо мастак столькі гадоў працаваў у педуніверсітэце. Кожны зможа пагутарыць з Віктарам, – расказала Марына.

Віктар Данілаў – мастак-выкладчык, член Міжнароднай гільдыі жывапісцаў.

У 1970-м скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута.

Піша ў жанрах пейзажа, нацюрморта.

Ад 1978 выкладае выяўленчае мастацтва на факультэце пачатковай адукацыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## ● ГАРАСКОП 31 ЖНІЎНЯ – 6 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** Вы ўвайшлі ў паласу росквіту любові і сяброўства. Імкніцеся не азмрочваць адносін з блізкім чалавекам неабгрунтаванымі падазрэннямі і прыдзіркамі. Не спрабуйце ажыццявіць усе свае дзелавыя і службовыя даручэнні, перагрузка можа адмоўна адбіцца на здароўі.



**ЦЯЛЕЦ.** Лёс спрые ўсім, хто імкнецца дасягнуць вялікіх здзяйсненняў у сваім жыцці. Вы не раз усур'ёз задумаецеся, наколькі добра складваецца ваша жыццё. Галоўнае тут – не нарабіць памылак.



**БЛІЗНЯТЫ.** Для тых, хто ўмее пазітыўна глядзець на самыя што ні ёсць звычайныя рэчы, настрой будзе добры, нягледзячы на цяжкасці. Запішыцеся на якія-небудзь курсы ці самастойна пачніце наведваць розныя семінары. Так вы зможаце абзавесціся новымі знаёмымі і аднадумцамі.



**РАК.** У бацькоў з дзецьмі могуць складвацца няроўныя адносіны, мець месца крыўды з-за дробязяў і ўзаемныя праваказы. На дапамогу вам прыйдзе мудрасць, жыццёвы досвед і ўменне дараваць.



**ЛЕЎ.** Сямейныя пары будуць шумна высвятляць адносіны, змагацца за высокае званне «гаспадара ў доме». Гэта засмуціць нават тых, хто не першы год разам. Але сядзьце і падумайце: ці гэта важна? І пастарайцеся размеркаваць свой час так, каб былі сілы і на дом, і на сям'ю, і на сустрэчы з сябрамі. Не шкадуйце часу на размовы з блізкімі, нават калі вам сумна ў чарговы раз абмяркоўваць даўно вырашаныя пытанні.



**ДЗЕВА.** Падзеі не прымаюць станоўчую ці адмоўную афарбоўку: яны проста здараюцца. Гэта «проста жыццё» можа падацца сумнаватым. Аднак планеты прыбралі з яго стрэсы, каб вы ўбачылі рэаліі. Рыхтуйцеся да пераменаў.



**ШАЛІ.** Вам трэба змяніць сябе, бо змяніўшы светапогляд, вы на ўсё зможаце паглядзець пад іншым вуглом. Гэта пойдзе вам на карысць. А калі будзеце ўважліва слухаць і чуць навакольных, то зможаце дасягнуць згоды і паразумення нават з самымі нязгодлівымі людзьмі.



**СКАРПІЁН.** Спалучайце актыўнасць з адпачынкам, і вы заўважыце, што не толькі не стамляецеся, але нават набіраецеся сіл і з кожным днём адчуваеце сябе больш бадзёрымі. Свае сапраўдныя мэты можна раскрываць толькі блізкім людзям ці тым, каму моцна давяраеце.



**СТРАЛЕЦ.** Добрыя справы, здаровы лад жыцця будуць рабіць вас больш чыстымі духоўна і маладзейшымі фізічна. А яшчэ займайцеся спортам, актыўнай дзейнасцю па ўзнаўленні і прымнажэнні запасаў здаровых сіл у арганізме.



**КАЗЯРОГ.** Навакольныя раздражняюць вас сваімі паводзінамі. Не гарачыцеся! Дзейнічайце паціху, выкарыстоўваючы ўласцівы вам шарм і знаходлівасць.



**ВАДАЛЕЙ.** Варта задумацца пра паездку, якая, як прадказваюць зоркі, адбудзецца праз некалькі месяцаў. Калі цяпер усё спланаваць, падарожжа будзе ўдалым. Узрасце сіла перакanання, якая дапаможа наладзіць карысныя сувязі.



**РЫБЫ.** Магчымы новы раман, але толькі калі вы шукаеце сур'ёзных адносін. Не выкарыстоўвайце ўдачу ў карыслівых мэтах ці ў азартных гульнях – яна можа лёгка вас пакінуць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | | | | 1 | | 8 |
| 3 | | | | 4 | | | 7 | 6 |
| | 6 | 7 | 1 | | | | | 3 |
| 6 | 4 | | | | | 8 | | |
| | 7 | | | | | 9 | 2 | |
| 5 | | | 4 | 9 | | | | 7 |
| | | | 8 | 6 | | | 3 | 1 |
| | | | 5 | | | | | 9 |
| | | 4 | 9 | | | | | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## ● НАДВОР'Е

**1 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +23 | | +15 / +23 | | +15 / +22 | | +15 / +20 | |
| | 744 | ↑ 5 | 747 | → 4 | 749 | ↓ 3 | 748 | ↓ 4 |
| Вільня | +13 / +20 | | +11 / +22 | | +12 / +19 | | +11 / +21 | |
| | 749 | ↑ 4 | 753 | → 2 | 756 | ↓ 2 | 755 | ↓ 3 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 6.20 -13
Захад 20.05 -17
Даўжыня дня 13.55

Усход 22.37
Захад 12.47
Квадра 4



## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +2,3°С у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +30,9°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,3 мм у 1978 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чытайце праз тыдзень

- Якую працу прапаноўвалі на кірмашы вакансій у Вілейцы? Ці лёгка арганізацыі знайсці сумленнага работніка, а шукальніку добрую працу? Чаму другі раз запар кірмашы вакансій праводзяць у новым фармаце, а ад вялікай актавай залы з працадаўцам за трыбунай вырашылі адмовіцца?

## Сустракай восень з «Рэгіянальнай газетай»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## Алесь Раткевіч запрашае на прэзентацыю

МАЛАДЗЕЧНА

У 18:30 у чацвер, 6 верасня адбудзецца прэзентацыя кнігі краязнаўцы з Чысці **Алеся Раткевіча** «Невядомая гісторыя майго краю».

Сустрэча пройдзе ў прыватнай гасцёўні ў Маладзечне па вуліцы Чыстай, 26.

Уваход свабодны.

**Аддзел інфармацыі.**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

У мяне зайздросная сіла волі – магу спыніць працу ў любы момант.

***

Дзяўчаты, выходзьце замуж! Ніводны мужчына не павінны застацца беспакараным.

***

Першы закон пляжу: калі накрыў тэлефон і кашалёк ручніком, іх ніхто не скрадзе.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ ПІСЬМЕННІКАЎ РЭГІЁНА

## Як вы ў дзяцінстве дабіраліся да школы?

**Сёлета 2 верасня адсвяткуюць Дзень беларускай пісьменнасці. 1 верасня дзеці пойдуць у школу. Мы аб'ядналі гэтыя тэмы ў нашай традыцыйнай апытанцы.**

**Больш гісторый чытайце на нашым сайце rh.by.**

**Уладзімір Садоўскі, Маладзечна:**

– Мне пашчасціла, жыў у пяці хвілінах хады. Мог выбягаць з дому, калі ў школе ўжо звінеў званок. Аднойчы зімой зламаў нагу. Сябар Рома некалькі тыдняў па дарозе заходзіў па мяне і вёз на санках да школы. Цяпер перыядычна абураецца, што я не ўзгадваю гэты яго подзвіг.

**Бажэна Ганушкіна, Вілейка:**

– Жыла пад Вілейкай, вучылася ў горадзе. Да школы было кіламетраў пяць. Заводзілі ў школу бацькі. У малодшых класах магла не трапіць праз снег. Калі ноччу замятала дарогі, раніцай іх чысціць не паспявалі. Бацькі дабіраліся пешшу на працу па гурбах да калена, а я заставалася дома.

**Уладзімір Папковіч, Вілейка:**

– Нарадзіўся ў вёсцы Дварэц. У 1944-м бацька завёў у Мардасы за 2-3 кіламетры ў пачатковую школу і аддаў адразу ў другі клас, таму што чытаць умеў, а пісаць – навучыся. У восьмым вучыўся ў Ілы за 15-17 км. У суботу прыходзіў дадому, у нядзелю з торбачкай харчу вяртаўся.

**Марыя Шэбанец, Маладзечна:**

– Да школы ішла пехам, хвілін 15 хады было. Потым з'ехала ў іншы раён, дабіралася на аўтобусе. Звычайна хадзіла адна. Заўсёды лічыла гэты час найлепшай магчымасцю для творчасці. Сшытак у сумцы ёсць, занатаваць можна адразу.

**Ніна Лістота, Маладзечна:**

– Вучылася ў ліцэі №7. Хадзілі на вучобу паасобку, вярталіся ўдвух ці кампаніяй. Зімой часта коўзаліся на дарозе. Аднойчы са школьнымі сябрамі пайшлі на ўскраек горада на бетонную вышку. Забраліся па лесвіцы на перадапошні паверх. Было страшна. Глядзелі па горад, дух займала ад вышыні.

**Віктар Марціновіч, нарадзіўся ў Ашмянах:**

– Вучыўся ў Мінску, школа была ў дзесяці хвілінах хады. На дарозе ад дома да школы быў гастраном, дзе гандлявалі смачнюткімі бутэрамі са шпікам і марожаным у пластыкавых кряманках, малочным кактэйлем і раскошай 90-х – напіткам з сумесі марожанага ды фанты.

**Рагнед Малахоўскі, Мядзел:**

– Звычайна дабіраўся на аўтобусе, але ў пачатку 90-х ён мог не прыйсці – ішоў пешшу. Аднойчы ішлі з братам, з кузава грузавіка, які нас абагнаў, вылецела дзьвюхсотрублёвая купюра (на той час – самы высокі наміналі). Патрацілі на ласункі, падзяліліся з аднакласнікамі.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№35 (1218) 31.08.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 665. Падпісана ў друк у 9.00 30.08.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.